*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
***ФРАНЦІШАК БАГУШЭВІЧ***



# НАША СЛОВА




Газета выходзіць з сакавіка 1990 года № 36 (575) 18 ВЕРАСНЯ 2002 г.

## Дамейка вяртаецца ў Беларусь



12-га і 13-га верасня ў Лідскім і Карэліцкім раёнах, а таксама ў Наваградку і Менску прайшлі ўрачыстыя і навуковыя мерапрыемствы з нагоды 200-годдзя з дня нараджэння вялікага вучонага Ігната Дамейкі.

Каля Крупаўскай школы Лідскага раёна, якая з'яўляецца спадкаемцам Запольскай школы, адкрыты памятны знак у гонар Ігната Дамейкі (аўтар Рычард Груша, г. Ліда). Удзельнікі ўрачыстасцяў наведалі і памятны знак, пастаўлены ў гонар Ігната Дамейкі ў 1995 годзе ў пачатку Запольскай алеі.

У Наваградку быў адкрыты памятны знак у гонар Адама Міцкевіча-блізкага сябра Ігната Дамейкі (аўтар Рычард Груша, г. Ліда). Там гэтая падзея фактычна перарасла ў свята горада.



У Карэліцкім раёне бюст Ігнату Дамейку быў пастаўлены на радзіме вучонага ў в. Мядзведка. У Міры быў пастаўлены помнік (аўтар Рычард Груша, г. Ліда) на магілу бацькі Ігната Дамейкі Антонія Гіпаліта Дамейкі, якая знайходзіцца каля мірскага касцёла. Паколькі касцёл зараз рэстаўруецца, помнік пастаўлены некалькі ўбаку ад магілы. У Міры ж прайшлі і чарговыя Карэліцкія чытанні, прысвечаныя Ігнату Дамейку. 13 верасня ў Менску прайшла Дамейкаўская навуковая канферэнцыя.

На ўрачыстасцях прысутнічалі нашчадкі Ігната Дамейкі з Чылі, Іспаніі, Вялікабрытаніі, Аўстраліі, Нарвегіі.

Наступны цыкл святочных мерапрыемстваў ў гонар Ігната Дамейкі пройдзе ў Лідзе і Берасці. 19 верасня ў Лідскім музеі адкрываецца выстава жывапісу Рычарда Грушы "Вянок Дамейкі". 4-5 кастрычніка ў Берасці, а 6-7 кастрычніка ў Лідзе пройдуць Дамейкаўскія чытанні. У Лідскім музеі будзе разгорнута экспазіцыя з польскіх экспанатаў. Паводле неафіцыйных звестак 6 кастрычніка [illegible] закладка першага каменя ў помнік Ігнату Дамейку ў Лідзе. Дай Божа, каб спраўдзілася.

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымку:** *памятны знак Ігнату Дамейку ў в. Крупава Лідскага раёна адкрываюць прапраўнучка Ігната Дамейкі* ***Ганна-Марыя Салазар-Дамейка (Ana Maria Salazar-Domeyko)*** *з Нарвегіі і мастак* ***Рычард Груша*** *з Ліды.*

## Не – рэпрэсіўным законам!

### Зварот грамадскага аб'яднання "Беларуская асацыяцыя журналістаў" да грамадзян Рэспублікі Беларусь

Мы занепакоены тым, што ў краіне права на свабоднае выказванне меркаванняў, атрыманне і распаўсюджванне інфармацыі апынуліся пад пагрозай крымінальнага пераследу. Прызнаны вінаватымі ў паклёпе ў дачыненні да прэзідэнта і асуджаны журналісты гарадзенскай газеты "Пагоня" Мікола Маркевіч і Павел Мажэйка. Найбліжэйшым часам перад судом паўстане галоўны рэдактар газеты "Рабочы" Віктар Івашкевіч. Яму інкрымінуецца "замах на паклёп і абразу" кіраўніка дзяржавы. У паклёпе на прэзідэнта абвінавачваецца і вядомы палітык Анатоль Лебедзька.

Такія абмежаванні свабоды слова - праблема не толькі журналістаў і палітыкаў, але і ўсяго грамадства. У Беларусі склалася сітуацыя, калі крытычныя выступы на адрас любога прадстаўніка ўлады могуць расцэньвацца як злачынствы, адказнасць за якія прадугледжваюць артыкулы: "Паклёп у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367 Крымінальнага кодэкса), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368 КК), "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт 369 КК). Максімальнае пакаранне, прадугледжанае гэтымі артыкуламі, - пазбаўленне волі тэрмінам да 5 год.

Тым часам усебаковае і аб'ектыўнае інфармаванне грамадзян пра дзейнасць уладных структур з'яўляецца неабходнай умовай дэмакратычнага развіцця грамадства. Праз незалежныя СМІ забяспечваецца адкрытасць уладаў, рэалізуецца дыялог, які вядзе да разумення і згоды ў краіне.

Улічваючы сур'ёзнае абвастрэнне стасункаў улады і прэсы, ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" выступае з ініцыятывай правядзення агульнанацыянальнай кампаніі за адмену вышэйзгаданых артыкулаў Крымінальнага кодэкса. Ужыванне гэтых артыкулаў вядзе да забароны крытычных выступаў у СМІ, падмены свабоды слова свабодай прапаганды, спрыяе бескантрольнасці дзяржаўных чыноўнікаў.

Не - законам, якія спараджаюць рэпрэсіі, страх і самавольства ўладаў!

ГА "Беларуская асацыяцыя журналістаў" заклікае падпісацца пад гэтым зваротам усіх, што хоча жыць у свабоднай, дэмакратычнай краіне, мець права публічна выказваць свой пункт гледжання і магчымасць атрымліваць самую разнастайную інфармацыю.

**Падтрымліваю зварот Беларускай асацыяцыі журналістаў аб адмене артыкулаў Крымінальнага кодэкса "Паклён у дачыненні да Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 367), "Абраза Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь" (арт. 368) і "Абраза прадстаўніка ўлады" (арт. 369)**

***Прозвішча, імя, імя па бацьку*** ____________________

***Год нараджэння*** ____________________

***Адрас*** ____________________

***Асабісты подпіс*** ____________________

***Заўвага:*** *Ваш подпіс можа стаць падставай для заканадаўчай ініцыятывы з мэтай адмены вышэйзгаданых артыкулаў. Запоўнены купон просім накіраваць у рэдакцыю газеты.*

## Пастаўлены помнік лідскай шляхце




15 верасня ў вёсцы Беліца Лідскага раёна пастаўлены мемарыяльны крыж у памяць шляхты Лідскага павету, якая палегла тут у 1659 годзе, трымаючы пераправу цераз Нёман перад 30-ці тысячным маскоўскім войскам ваяводы Хаванскага. Рэгулярнае войска Вялікага княства Літоўскага ў гэты час змагалася ў Прыбалтыцы супраць шведаў, таму бараніць сваю зямлю ўставалі ўсе тыя, хто мог, і перш за ўсё шляхта. Паводле гістарычных звестак, шляхта трымала пераправу цэлы дзень. Усяго адзін дзень у 13-ці гадовай вайне.

Сёння пастаўлены крыж за адзін дзень мужнасці. І ў гэтым яго найгалоўнейшая каштоўнасць. Бо толькі тады мы станем народам, калі будзем памятаць кожны дзень сваёй гісторыі.

Ініцыятарам пастаноўкі крыжа выступала Лідская гарадская арганізацыя ТБМ імя Ф. Скарыны.

Асвяціў крыж і адправіў імшу на беларускай мове ксёндз Ян з Беліцкага касцёла святога Юр'я.

На крыжы выразаны даты: **"1659-2002"** і дэвіз беларускай шляхты: **"Бог. Гонар. Айчына".**

На гранітнай пліце перад крыжам выява Пагоні і тэкст:

***"Бог. Гонар. Айчына.***

**На гэтым месцы ў 1659 годзе шляхта Лідскага павету дала бой 30-тысячнаму маскоўскаму войску, засланіўшы сабой шлях на Горадню і Ліду.**

***Вечная слава змагарам за незалежнасць Бацькаўшчыны!"***

У свяце акрамя жыхароў Беліцы бралі ўдзел прастаўнікі грамадскіх і партыйных арганізацый Ліды і Лідскага раёна, госці з Менска і Горадні рыцарскі клуб "Дайнова", камбатанты Арміі Краёвай. "Магутны Божа" гучаў у выкананні хору ўніяцкай парафіі г. Ліды.

Падчас акцыі слова мелі старшыня ГА "БНФ "Адраджэньне" Вінцук Вячорка, старшыня Лідскай арганізацыі КХП БНФ Уладзімір Хрышчановіч, спяваў бард Валер Жамойцін. Вёў акцыю Станіслаў Суднік.

***Яраслаў Грынкевіч.***

**На здымку:** *ксёндз Ян асвячае крыж, у ганаровай варце камбатанты АК.*

## 24 верасня ў Доме літаратара -- з'езд Саюза беларускіх пісьменнікаў



*У Саюзе беларускіх пісьменнікаў*

**4 верасня** адбылася рада Саюза беларускіх пісьменнікаў, якая вызначыла адзіна магчымае месца і дзень будучага з'езду, а менавіта 24 верасня, Дом літаратара. Тым самым была падтрымана пазіцыя старшыні Саюза пісьменнікаў Вольгі Іпатавай і асуджана раскольніцкая дзейнасць так званага "аргкамітэту" на чале з дырэктарам інстытута літаратуры Ул. Гніламёдавым.

Характэрна, што Раду зноў спрабавалі "блакаваць": па некаторых звестках, з многімі сябрамі яе вялася пэўная "работа" з тым, каб сарваць яе правядзенне. На Раду не з'явіліся: М. Мятліцкі, А. Бутэвіч, Р. Баравікова, Н. Гільпаровіч, У. Карызна, В.Шніп, А. Марціновіч, У. Саламаха і некаторыя іншыя. Аднак Рада абавязала газету "ЛіМ" і асабіста в. а. галоўнага рэдактара В. Шніпа апублікаваць звесткі аб сваёй пазіцыі да аб'яўленага "аргкамітэтам" з'езду.

* * *

**8 верасня** ў Цэнтры культуры г. Глыбокае адбылося святкаванне Дзён пісьменства. Была падрыхтаваная вялікая праграма, у якой удзельнічалі беларускія пісьменнікі: В. Гарановіч, А. Жыгуноў, Т. Ляшонак, а таксама маладыя творцы – Г. Сутула, С. Новік.

У вечарыне таксама прыняла ўдзел старшыня СБП В. Іпатава.

## Вылазка нядобразычліўцаў

Сціплы літаратар, я не мог пошнім часам без агіды і засмучэння сачыць па публікацыях у "новым" "ЛіМе" за бесцырымонным цкаваннем старшыні нашага Саюза Вольгі Іпатавай.

Не буду ўдавацца, прабачце, у злосную брахню на шаноўную Вольгу Міхайлаўну, нагадаю толькі знішчальны фельетон Алеся Рыбака "Печыва па-праўдзінску", змешчаны ў "Народнай волі".

Даўно ведаю і паважаю Вольгу Іпатаву. Чалавек у расквіце жыццёвых і творчых сіл, выдатны арганізатар, з цвёрдай грамадзянскай пазіцыяй у пытаннях беларускай дзяржаўнасці, стану нашай роднай мовы, гісторыі і культуры.

Таму я ў адказ на перадз'ездаўскую анкету: каго рэкамендаваць на пасаду старшыні Саюза беларускіх пісьменнікаў, прапаную аднагначна Вольгу Міхайлаўну Іпатаву.

Адпаведна – каго рэкамендаваць у кіраўніцтва Саюзам, г. зн. у Раду СБП.

Па-першае, хацеў бы бачыць у Радзе нашага слыннага пісьменніка Васіля Быкава.

Хацелася б, каб гэты орган быў зборам аднадумцаў, куды ўвайшлі б Генадзь Бураўкін, Сяргей Законнікаў, Анатоль Вярцінскі, Эрнэст Ялугін, Міхась Тычына, Ул. Содаль, Я. Сіпакоў, А. Рагуля, П. Місько, Ул. Конан, А. Казловіч, Р. Барадулін...

***Уладзімір Анісковіч.***

# Слова ў абарону літаратуры

Мы, сябры Гарадзенскага аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сілаў, з хваляваннем і трывогаю ўжо каля года назіраем за тым, што адбываецца ў Саюзе беларускіх пісьменнікаў, і ніяк не можам узяць у толк, каму патрэбны гэты раскол, прыніжэнне ролі старшыні Саюзу Вольгі Іпатавай, карацей – усе гэтыя сваркі, што зараз адбываюцца пад добрапрыстойным выглядам клопатаў за сённяшнее становішча і будучае нашай літаратуры. Думаецца, і мы ў гэтым цвёрда перакананы, што гэта не патрэбна і не на карысць нікому... І вось цяпер не толькі мы, а перш інтэлігенцыя і ўся грамадскасць павінны неяк утаймаваць і пераканаць у гэтым праз меру гарачых разбуральнікаў Саюзу і яго адзінства, спыніць брудны паклёп і ўсялякае ахайванне цяперашняга кіраўніка пісьменніцкай арганізацыі Вольгі Іпатавай, якая бязмежна аддана нацыянальнай справе, беларускай ідэі і, нават, у такіх не лепшых умовах нямала зрабіла для нашай літаратуры. Гэтага нікому не прыніздіць і не перахрэсліць. Бачыць Бог і людзі, хто чаго варты, хто служыць гуманізму і дабрыні, а хто – злу. Апошняга у нас цяпер і так больш, чым дастаткова. І калі ім пачне раз'ядаццa яшчэ і нашая святая святых – літаратура, то гэта ўжо небяспека не толькі для яе самой, яе творцаў, а для ўсяго нашага грамадства, дзе і без таго досыць негатыўнага...

Усведамленне гэтай небяспекі і трывогі непасрэдна за лёс і добрае імя пісьменніцы Вольгі Іпатавай прымусілі нас узяцца за пяро і сказаць сваё слова ў абарону сённяшняй пісьменніцкай арганізацыі і яе шматпакутнага мужнага важака. Мы, сябры ветэранскага аб'яднання ў Горадні, пратэстуем, выказваем сваё абурэнне і рашучую нязгоду з разгорнутай кампаніяй цкавання нашай зямлячкі і выдатнай беларускай пісьменніцы. Мы супраць, таксама, таго раздраю і ўсялякага расколу ў пісьменніцкіх шэрагах, якi, як сведчаць перадз'ездаўскія публікацыі ў прэсе, пачаў раз'ядаць саюз і душы яго сяброў, а значыць – і нашы душы. Нас здзіўляе, што газета "Літаратура і мастацтва", заснавальнікам якой з'яўляецца Саюз беларускіх пісьменнікаў, вядзе лютае цкаванне старшыні СБП Вольгі Іпатаваай. Ніякія тут подпісы, палітыканскія анкетаванні несумяшчальны ў літаратуры, калі яна хоча быць літаратурай, а не дадаткам да нейкіх там – *ізмаў* і ўсялякіх палітыка-ідэальных хітраспляценняў. Занатуйце гэта ўсе разумнікі і ўсіх рангаў у сваіх галовах, калі яны ў вас ёсць!...

***Рада Гарадзенскага гарадскога аб'яднання ветэранаў вайны, працы і Узброеных Сілаў.***

# ВЫГНАЛІ З ПАМЯШКАННЯ НАВАПОЛАЦКІ "КНЯЖЫЧ"

Шостага верасня 2002 г. дырэктар Наваполацкага Цэнтра Рамёстваў і Нацыянальнай Культуры (далей ЦРіНК) Сухаржэўскі А. В. сваёй пастановай ад 28 жніўня 2002 г. выгнаў з Наваполацкага ЦРіНК гістарычна-культурны клуб "Княжыч".

Справа ў тым, што ГКК "Княжыч", які існуе ужо 7 год, адмовіўся ўдзельнічаць у рэспубліканскім святце работнікаў сяла "Дажынкі - 2002" (г. Полацак) у сувязі з тым, што ГКК "Княжыч" яшчэ раней быў запрошаны да ўдзелу ў фестывалі сярэдняевечнай культуры "Заслаўскі набат - 2002", які адбываўся ў той жа час, што і "Дажынкі-2002". Але адміністрацыяй Наваполацкага ЦРіНК, у асобе дырэктара Сухаржэўскага А. В., ва ўльтыматыўным парадку было загадана адмовіцца ад удзелу ў фестывалі "Заслаўскі набат - 2002"і выступаць на "Дажынках". У выпадку адмовы спадар Сухаржэўскі пагражаў выгнаць ГКК "Княжыч". 6 жніўня, клуб пазбавіўся памяшкання ў ЦРіНК, што займаў на працягу апошніх 2 гадоў.

Гістарычнна-культурны клуб "Княжыч" быў заснаваны ў кастрычніку 1995 г. групай выкладчыкаў і студэнтаў Полацкага дзяржаўнага ўніверсітэта. На працягу ўсёй сваёй дзейнасці працаваў з моладдзю і студэнтамі г.г. Полацка і Наваполацка, займаўся рэканструкцыяй і адраджэннем традыцыйнай беларускай культуры: паазерскага фальклёру, народных танцаў, а таксама старажытных абрадаў. ГКК "Княжыч" шматразова ладзіў традыцыйнае архаічнае Купалле, Каляды, Гуканне Вясны, Жаніцьбу Цярэшкі. У мінулым годзе "Княжыч" праводзіў фальклёрныя майстар-класы для польскіх фальклярыстаў, зладзіў супольны канцэрт з польскімі гуртамі "OVO" і "Percival Schuttenbach" (г. Уроцлаў). На пратягу 2001-2002 гг. ГКК "Княжыч" двойчы ўдзельнічаў ва Ўроцлаўскім фестывалі "Купальская ноч 2001-2002 ", таксама быў запісаны супольны музычны альбом з гуртом "Percival Schuttenbach".

Мы, чальцы "Княжыча", абураныя падобнымі адносінамі да нашай арганізацыі, тым больш, улічваючы, што за 2001-2002 гг. намі было зладжана больш за 30 імпрэзаў, канцэртаў, рэканструкцыяў абрадаў. На гэты момант клуб налічвае 25 чальцоў, якім проста няма дзе збірацца. Мы шчыра спадзяёмся на Вашу падтрымку.

***З павагай: ГКК "Княжыч", Наваполацк.***

## *"Вербніца" з Пружанаў*

Сталым удзельнікам рэспубліканскіх фестываляў і святаў у Беларусі з'яўляецца народны хор з Пружанаў "Вербніца" пад кіраўніцтвам Івана Гвоздзіка. Артыстаў у непаўторных самабытных строях з выдатна падабраным рэпертуарам заўсёды цёпла сустракаюць жыхары гарадоў і вёсак нашай краіны. Са сваёй творчасцю хор знаёміў таксама слухачоў у суседняй Польшчы.



**На здымку:** удзельнікі народнага хора "Вербніца" Валянціна Кунда, Ірына Немяровіч, Іван Гвоздзік, Валер Купчанка.

**Фота Рамана Кабяка, БелТА.**

# Ёсць поле для змагання

На гістарычным факультэце Гарадзенскага дзяржаўнага ўніверсітэта ўжо другі год існуе беларускмоўная плынь. Яшчэ ў 1999-2000 навучальным годзе студэнты сабралі подпісы з патрабаваннем забяспечыць ім навучанне на роднай мове. Тады ім адмовілі, спаслаўшыся на адсутнасць такой магчымасці. Аднак з волі міністра адукацыі праз два гады беларускамоўную плынь на факультэце ўсё ж адчынілі.

Сярод студэнтаў родная мова карыстаецца папулярнасцю. Пра гэта яскрава сведчаць вынікі сёлетняга паступлення, калі конкурс на беларускамоўнай плыні склаў амаль 3 чалавекі на месца, тады як у расейскамоўнай групе быў недабор. Але не ўсе студэнты атрымалі магчымасць атрымліваць адукацыю па-беларуску, паколькі кіраўніцтва факультэта літаральна перацягнула дзясятак чалавек у недабраную групу. Болей за тое, нават на беларускамоўнай плыні многія выкладчыкі адмаўляюцца чытаць лекцыі на той мове, на якой яны абавязаны чытаць па азначэнні, і праводзяць выкладанне сваіх прадметаў па-расейску.

***Зміцер Аляшкевіч.***

| МІНІСТЭРСТВА АДУКАЦЫІ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ **Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі** АКПА 00027626 вул. Савецкая, 9 220010, г. Мінск, тэл. 222 68 48 факс (017) 220 84 83 | МИНИСТЕРСТВО ОБРАЗОВАНИЯ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ ***Главное управление общего среднего образования*** ОКПО 00027626 ул. Советская, 9 220010, г. Минск, тел. 222 68 48 |
|---|---|

**Грамадскае аб'яднанне "Таварыства беларускай мовы імя Я. Скарыны"**

Галоўнае ўпраўленне агульнай сярэдняй адукацыі на Ваш запыт паведамляе наступнае.

У 2002-2003 навучальным годзе у СШ № 181 г. Мінска адкрыты 10 "Г" клас з беларускай мовай навучання.

**Намеснік начальніка Галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі – Гапановіч.**

# НАРОДНАЯ ПАРТЫЯ

**палякаў Літвы з беларускім аддзелам (фракцыяй) створана на ўстаноўчым з'ездзе, які адбыўся у Вільні 27 ліпеня 2002 года ў Дзень 12-х угодкаў Незалежнасці Беларусі.**

Ад беларусаў Літвы (чытай ад ТБМ імя Ф.Скарыны Віленскага Краю) гэты з'езд прадстаўлялі 30 чалавек. На з'ездзе прыняты Статут і Праграма партыі, выбраны кіраўнічыя органы партыі. Старшынёй ЛЛЛП (літоўская абрыятура назову партыі) – Народная партыя палякаў Літвы, - выбрана АНТАНІНА ПАЛТАВЕЦ.

Хаця на З'ездзе дэлегатаў ад беларусаў было малавата але ніякай дыскрымінацыі не было, а наадварот. Даручана весці з'езд было Рышарду Мацейканец (ад палякаў) і Гераніму Юргілевічу (ад беларусаў). Сярод выступоўцаў быў і Гіль Юры (ад беларусаў), які гаворку вёў на беларускай мове. Дарэчы Гіль Ю. быў і сябрам мандатнай камісіі..

У цэнтральныя органы партыі ад беларусаў увайшлі 2 дэлегаты. Геранім Юргілевіч стаў адным з намеснікаў старшыні партыі, кіраўніком беларускага аддзела (фракцыі), а Гіль Юры – намеснікам кіраўніка беларускага аддзела і сябрам камісіі па этыцы (чытай парткамісіі).

Такім чынам ёсць ужо падмурак для стварэння ў далейшым самастойнай беларускай палітычнай арганізацыі. Цяпер галоўная наша задача – гэта рэгістрацыя партыі у Міністэрстве юстыцыі Літвы і падрыхтоўка да выбараў у мясцовыя органы ўлады Літвы, якія адбудуцца ў снежні 2002 года.

Цяпер у Літве існаваць будуць дзве польскія партыі: Акцыя выборча палякаў Літвы і Польская партыя людова. Першую партыю, г. зн. Акцыю выборчу падтрымлівае ЗБАЛ (кір. Мурашка), а ТБМ імя Ф.Скарыны – Польскаю партыю людову, куды уваходзяць яе прадстаўнікі.

Паколькі кіраўнікі Акцыі выборчай займаюць шавіністычную пазіцыю ў адносінах да беларушчыны, якая яскрава праявілася непасрэдна да Ф.Багушэвіча і Б. Тарашкевіча, то ТБМ імя Ф. Скарыны Віленскага Краю вядзе барацьбу і будзе імкнуцца праз выбарчую кампанію змяніць палітычную сітуацыю на Вілешчыне, дзе Акцыя выборча пакуль што займае манапольнае становішча ў палітычным і грамадскім жыцці.

***Делегат Устаноўчага з'езду – Юры Гіль.***

# Беларуская народна-абрадавая харэаграфія ў сучасных умовах

Найбагацейшая традыцыйная культура беларускага народа. Яе самабытнасць і непаўторнасць яскрава сведчаць аб багатай культурнай спадчыне продкаў, іх абрадаў, звычаяў, традыцый. Кожнае фальклёрнае дзеянне, кожны абрад, кожнае свята ўяўляе сабой сінтаз розных мастацкіх кірункаў – песні, музыкі, слова, танца.

Зварот да духоўнай спадчыны народа карысны і плённы ва ўсе перыяды гісторыі. Але асабліва актуальны, я б сказаў, жыццёва неабходны ў нашыя часы прыславёнай глабалізацыі. Тэрмін гэты мае шырокі семантычны аб'ём (сацыяльны, эканамічны, палітычны і г.д.), нас жа найбольш цікавіць духоўны, культуралагічны яго аспект.

Сапраўды. Не толькі прафесійныя навукоўцы, публіцысты, мастакі слова, журналісты, але і, так бы мовіць, шараговыя, звычайныя жыхары планеты Зямля ўсё больш адчуваюць агрэсіўны наступ магутных транснацыянальных кампаній, канцэрнаў не толькі ў галіне эканомікі, але і культуры, маралі, рэлігіі і г.д. Непасрэдна гэта выяўляецца ў настойлівым, часам прымусовым, навязванні пэўных духоўных і мастацкіх клішэ, у табуяванні, замаскаваным высмейванні спаконвечных, невынішчальных агульналюдскіх паняццяў і сапраўдаў. У працэсе творчасці ўсё меншае значэнне надаецца чалавечым сэрцу і розуму. І ўсё большую ролю пачынае іграць створаны гэтым розумам кампутар.

У сферы этыкі дэкларуюцца новыя мадэлі і стэрэатыпы паводзін, абвяшчаюцца неперспектыўнымі паняцці дабра, роўнасці, бескарыслівасці, шчырасці, адкрытасці, на карысць прагматызму, дзелавітасці, рацыянальнасці, утылітарнай патрэбнасці.

Адным з эфектыўных сродкаў супрацьдзеяння выдаткам масавай культуры з'яўляецца зварот да жыватворных вытокаў народнай мудрасці (фальклёру), гэта дазваляе гаварыць пра перспектыўнасць працэсу фальклярызацыі культуры ў цэлым. Гэты феномен існавання цывілізацыі ў пачатку новых стагоддзя і тысячагоддзя надзвычай важны ў плане захавання нацыянальнай самабытнасці, нацыянальнай свядомасці, аўтаномных і аўтэнтычных нацыянальных культур.

Нацыянальная культура Беларусі бярэ свой пачатак з даўніны, яшчэ ад самага з'яўлення чалавека на зямлі. Тады з'явіўся яго рух як галоўнейшая неабходнасць існавання, і ад яго ўжо нядоўга заставалася да руху магічнага, абрадавага, танцавалльнага, Рухамі, мігамі, імітацыяй ён выказваў той ці іншы стан, з'яву прыроды і жывёльнага свету, земляробчага працэсу, расліннага асяроддзя. Не было яшчэ слова, але быў рух; і не зусім дакладна было сказана ў Бібліі, што "спачатку было слова"...

Рух, якім размаўляў чалавек з другім чалавекам і з прыродай, перадаваў не толькі рабочы і творчы працэс. Але і эмацыянальнасць, стан душы, пэўны настрой, радасць ці смутак.

Ад нараджэння чалавека і да самага яго пахавання ўсё было звязана з рухомымі дзеяннямі. Збіраючыся на паляванне, паляўнічыя імітавалі мігамі рук, ног, галавы гатоўнасць, ахвоту да работы, а таксама выконвалі магічныя рухі. Зусім іншыя мігі і рухі былі, калі яны вярталіся з палявання са здабычай. Жанчыны імітавалі асаблівымі мігамі земляробчы працэс сяўбы, апрацоўкі зямлі, збору ўраджаю. Такім чынам зараджаліся спачатку рухі паўсядзённага жыцця, якія затым вызначылі танцавальныя рухі, малюнкі, што абазначалі тое ці іншае дзеянне. На гэтай аснове пачалі з цягам часу ствараццa і танцы.

Танец, як сродак выражэння эмацыянальна-псіхалагічнай і этычнай народнай натуры займае асаблівае і важнае месца ў беларускім фальклёрным дзействе. У кожным абрадзе, святочным дзеянні існуе своеасаблівы характар танца: дынамічна-вясёлы, жартоўна-заліхвацкі, гульнёвы, лірычны – у кожным свая непаўторнасць. Як у песенным слове раскрываецца нейкі малюнак жыцця. Так і ў паэзіі народнага танца ажывае прыродная з'ява ці нейкі міфалагічны персанаж: "Каза", "Зайчык", "Жабка", "Зазюлька", "Пава", "Верабей", "Качар", "Перапёлачка", "Мядзведзь", "Бычок", "Журавель". Потым, калі чалавек пачаў абрабляць зямлю, сеяць, збіраць ураджай, з'яўляюцца танцы земляробчага працэсу, у якіх характэрнай рысай былі адносіны чалавека да галоўнага багацця – зямлі. Асобнае месца ў іх займаў харэаграфічны жанр з каляндарна-земляробчай і сямейна-бытавой абраднасцю, з традыцыямі першабытнага сінкрэтызму. Паказальным у гэтым жанры быў карагод, дзе арганічна зліты, як харэаграфічныя рухі, малюнкі, так і гульнёвае дзеянне з песнямі. Увогуле карагоды вадзілі толькі ў суправаджэнні песні. Фальклярысты, этнографы, збіральнікі народнай творчасці доўгі час, на жаль, запісвалі толькі словы, не звяртаючы ўвагі на адзінства лірычна-карагоднай харэаграфіі і песні, якія вельмі арганічна дапаўняюць адна адну і гэтым яшчэ больш яскрава выражаюць тое ці іншае дзеянне земляробчага працэсу і з'яву жыцця.

Многа разнастайных карагодаў на Беларусі, і аснова іх – абрадавая: "Куст", "Страла", "Стрэчанне", "Жаніцьба Цярэшкі", "Ох, ты, бяроза", "Крывы танок", "Падушачка", "Юр'я", "Стужачка, скажы", "Халімон", "Млынок", "Ой, вяснулячка", "Жаніцьба коміна", "Ушанаванне маладой", "Зборная субота" і шэраг іншых.

Розныя віды чалавечай працы ўзнаўляюцца сродкамі багатай і шматстайнай харэаграфічнай лексікі: рухам, імітацыяй, мігай, якія выразна маркаваны характарам дзейнасці герояў танцаў: "Цапы", "Кавалі", "Мельнік", "Пастухі", "Касец", "Шаўцы", "Краўцы", "Пскар", "Кашалі". Трэба падкрэсліць, што як і ў іншых народна-абрадавых творах, яскрава танцавальная палітра "працуе" тут не на банальную ілюстрацыю, а на стварэнне каларытных, адметных мастацкіх вобразаў і народных тыпаў, арганічна звязаных з жыццём і прыродай.

Народнае харэаграфічна-абрадавае дзейства няўхільна ўзбагачалася за кошт новых жанравых форм, іх элементаў, зіхацела досціпам скокаў, пертанцовак, хуткіх вясельных танцаў (хто каго пертанцуе), традыцыі даўняй "Лявоніхі" загучалі ў т. зв. "іменных" (па імені галоўнага персанажа) танцах: "Мікіта", "Юрачка", "Гусар", "Халімон", "Хвалько", "Мікола", "Шалапут".

Своеасаблівай і распаўсюджанай па амаль усёй тэрыторыі Беларусі сталася кадрыля – танец з непаўторным тэмпарытмам, своеасаблівым харэаграфічным "вядзеннем тэмы", з выяўленай драматургіяй, якая ўключае ў сябе займальны, вясёлы сюжэт. Кадрыльныя крокі звычайна простыя, галоўнае тут – кідкасць характараў і яскрава выражаныя адносіны паміж рознымі гуртамі: дзяўчат і хлопцаў, а таксама паміж кожнымі з іх паасобку.

Яшчэ адна адметная рыса кадрылі – гэта цотная колькасць пар у выкананні, яны шарэнгавыя, крыжападобныя, абменныя (парамі). У кадрылях вызначана паслядоўнасць і колькасць фігур, разнавіднасцяў кадрыляў шмат: лінейныя, касыя, кругавыя і "паўколавыя", "тоўстыя". Арганічна ўвайшлі ў кадрылі характэрныя для беларускага харэаграфічнага фальклёру малюнкі, калені, асноўныя хады і нават фрагменты з нацыянальных танцаў, полькі. "Лявоніхі" і інш.

Этнографы і фальклярысты 19 ст. пісалі, што на Беларусі ледзь не кожная вёска мае сваю кадрыль са сваёй ясравай адмецінай і характарам выканання, рэгіянальнай спецыфікай. Многія кадрылі носяць і сёння так званыя Вясковыя назвы: "Смаргонская", "Тураўская" "Воранаўская", "Лядкоўская", "Грабаўская", "Церабяжоўская", "Рамельская", "Верасніцкая", "Пухаўчанка", "Рудзенская".

Далей ідзе этап полек. Гэта старадаўні чэшскі танец быў у пэўнай ступені блізкі па характары харэаграфічнаму фальклёру беларусаў, таму ён стаў адным з самых шырокіх, папулярных на ўсёй Беларусі, але ўзбагаціўся і набыў мноства арыгінальных выкананняў. Полька зрабіла вялікі ўплыў на ўсю нацыянальную харэаграфію. Характэрны рух полькі-устрэсвання верхняй часткай корпусу і рук, прытупы, перапуты.

Беларуская полька набыла большую малюнкавасць, музычную каларытнасць праз перадачу мажорнай настроенасці. Для ўсіх полек абавязковымі з'яўляюцца парныя вярчэнні, якія маюць таксама рэгіянальную асаблівасць выканання: ногі то дробна шліфуюць, то ад калена выкідваюць высока ўгору і прысядаюць, таму так шмат назваў прысвоілі танцу населеныя пункты розных рэгіёнаў Беларусі. Таму і прыгожая полечная разнастайнасць рэгіянальных выбрыкаў і полечных скокаў: "Драбней маку", "Рассыпуха", "Барысаўская", "Шморгалка", "Запясоцкія скокі", "З прысюдамі", "Тураўская плясавая", "Віцяблянка", "Гайнаўская", "Лельчыцкія прыпуты", "Рудабельская". Кожны рэгіён у фальклёры вынаходзіць сваё спецыфічна-арганічнае выкананне полек.

Яшчэ у канцы 19 ст. утварыліся гарадскія бытавыя танцы, некаторыя з іх пачыналі свой шлях з вёскі, але ў аснове сваёй створаныя як гарадскія песенныя танцы, іх можна назваць танцамі славянскага народу. Танцуюцца яны лёгка, у гарадскіх бытавых танцах адна структура, адна і тая ж фігура паўтараецца некалькі разоў на працягу ўсёй танцавальнай песні. Іх выконваюць без асаблівай падрыхтоўкі як і абрадавыя карагоды. Выконваюцца гэтыя танцы парамі, часта з пляцканнем у далоні, прыстукамі ў большасці адной нагой, у адрозненне ад полькі, дзе прытуп дзвюма нагамі ідзе на лік "раз", "два", "тры" – тут прытуп толькі на лік "раз".

Вялікі рух і актыўнае адраджэнне фальклёрнага танца (таксама і бытавога, які яшчэ называлі бальным) адзначаецца ў першыя дзесяцігоддзі 20 ст.

У той час амаль па ўсёй Беларусі, як у вёсцы, так і ў горадзе, з'яўляюцца аматарскія гурты народнай харэаграфіі, студыі, аб'яднанні, школы народнай і бальнай танцавальнай культуры Беларусі. Прафесійныя калектывы ствараюць новыя харэаграфічныя сюіты, кампазіцыі ў гонар і памяць ахвярам вайны, мужнасці беларускага народа. Мастацтвам руху і мігі ўвасабляюцца жыццё, быт, гераічнасць беларуса. На прыгожых бальных танцах народна-бытавой харэаграфіі створаны дзіцячыя студыі, што мае высокае значэнне ў далейшым роcквіце ўсёй харэаграфіі Беларусі. Шмат з якіх народна-бытавых танцаў леглі ў пачатак бальных: "На рэчаньку", "Свеціць месяц", "Вянгерка", "Ойра", "Матлёт", "Какетка", "Сямёнаўна", "Дзевачка Надзя", ці "Лысы", "Страданні", "Падэспань", "Ночка", "Лязгінка", "Карапет", якія і склалі пачатковую аснову масавых танцавальных вечароў.

Як асаблівы жанр беларускага танцавальнага фальклёру выдзяляліся сольныя танцавальныя імправізацыі, у якіх асаблівы парадак фігур вызначаўся самім выканаўцам, кожны выканаўца асобнымі рухамі выказваў і падкрэсліваў сваё "я", разнастайнымі рухамі і мігамі выражаў настрой і пачуцці. Выканаўчаму майстэрству танцораў з народа ўласціва шчодрая самаадача, захопленасць. Для сольных танцаў характэрна і прыпевачная манера выканання, якая можа ствараццa імправізавана, на хаду.

Як самабытным старажытным відам народнай творчасці з'яўляецца гульня: масавыя, мужчынскія, жаночыя, парныя, музычныя і немузычныя, з ужываннем розных прадметаў побыту, хуткія і павольныя, жартоўныя. Галоўная функцыя гульні – забаўляльная, павучальная. Гульні ёсць песенныя, музычныя, танцавальныя ці, інакш, рухомыя.

Танцавальныя гульні таксама звязаны з побытам, вытворчай дзейнасцю людзей, сродкамі пазнання прыроды, асабліва ў дзіцячым асяроддзі, вялікае значэнне мае эстэтычна-творчае і інтэлектуальна-фізічнае развіццё. Таксама гульня выступае як сродак зносін і забавы дзяцей і падлеткаў.

Народныя гульні вылучаюцца разнастайнасцю форм.

Шматлікія беларускія гульні арнаментаваныя, бо гуляюцца часцей за ўсё на лугавой палянцы, вуліцы, двары, яны рухомыя з танцавальнымі крокамі. Часта гульні набывалі танцавальныя элементы.

Танцавальны фальклёр Беларусі ўсё больш спалучаецца з песняй, музыкай, гульнёй. Такі сінтэз фальклёру дае магчымасць больш поўна адчуць вобразнасць, багацце найвялікшай фальклёрнай спадчыны самабытнай культуры Беларусі – чыстай, незамучонай духоўнай крыніцы, ратунку, апірышча чалавека і грамадства ў няпростыя часы глабалізацыі.

***Мікола Котаў,***
***танцмайстар, навуковы супрацоўнік НДЛ беларускага фальклёру Белдзяржуніверсітэта.***

**Рэдактар Станіслаў Суднік**

*Заснавальнік:*
ТБМ імя Францішка Скарыны.
*Пасведчанне аб рэгістрацыі:*
№ 83 ад 28 чэрвеня 1996 г.
*Адрас рэдакцыі:*
220005, г. Менск, вул. Румянцава, 13.
*Адрас для паштовых адпраўленняў:*
231300, г. Ліда-2, п/с 7.
*E-mail:* ns@lida1.lingvo.grodno.by
http://tbm.org.by/ns/



*Аўтары цалкам адказныя за падбор і дакладнасць прыведзенай інфармацыі*

Газета надрукавана ў Лідскай друкарні.
231300, г.Ліда, вул. Ленінская, 23.
Газета падпісана да друку 16. 09. 2002 г.
Наклад 2450 асобнікаў. Замова № 1727.
*Падпісны індэкс:* 63865.
*Кошт падпіскі:* 1 мес.- 489 руб., 3 мес.- 1467 руб.
*Кошт у розніцу:* 120 руб.